ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 5 (152) 2 - 8 лютага 1996 г. Кошт 800 рублёў

ЭКАНАМІСТЫ, СТАЛІН ДАЎ ЗАГАД - ст. 3.

МАЙКЛ ДЖЭКСАН І ЭСПЕРАНТА - ст. 4.

РОСТАНІ БЕЛАРУСКАЙ ЭСТРАДЫ - ст. 8.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## ПРАЕКТ ПРЭЗІДЭНЦКАГА БЮДЖЭТУ НЕ ДАЕ СПАДЗЯВАНЬНЯЎ ВЫТВОРЦАМ

**Як вядома, праект бюджэту на 1996 год паступіў у парламант з вялікім спазьненьнем. Карэспандэнт агенства «Павет» зьвярнуўся да Начальніка Аддзела інвестыцыйнай дзейнасьці Кантрольнай Палаты Мікалая Крыжаноўскага з просьбай прааналізаваць праект.**

- Аналіз даходаў рэспубліканскага бюджэту ў 1995 годзе паказвае, што наша эканоміка ўжо ня ў стане забясьпечыць нават збор даніны з тых, хто яшчэ нешта робіць, - лічыць сп.Крыжаноўскі. - Так, за мінулы год план па падатках на прыбыткі і даходы выкананы толькі на 69,9 працэнта, па падатку на нерухомасьць - на 74 працэнты, мізэрная плата за зямлю, і тая толькі на 81,9 працэнта. Нават акцызы - толькі на 75,6 працэнта.

Зьдзіўляе вельмі нізкая плата на зямлю. На 1996 год запланавана плата за зямлю на суму 351146 мільёнаў рублёў. Гэтых сродкаў нават не хапае на расходы па вапнаваньню глебы, на якія прадугледжаецца 478800 мільёнаў рублёў.

Расходы бюджэту накіраваліся галоўным чынам, на ўмацаваньне ўладных структур. Тут выкананьне ня менш як 90 працэнтаў. Варта адзначыць, што штатная колькасьць ворганаў дзяржаўнай улады і кіраваньня ў 1993 годзе складала 10574 адзінкі, у 1994 годзе - 17038 адзінак, а ў 1995 годзе - 20586 адзінак без штатнай колькасьці сакратарыяту Вярхоўнага Савету, Адміністрацыі прэзідэнта, Упраўленьня справамі прэзідэнта.

На 1996 год 105159 мільёнаў рублёў, або 42,4 працэнты ад агульнай сумы расходаў, якія адносяцца да асноўных разьдзелаў, прадугледжана для Упраўленьня справамі прэзідэнта. Затое на культуру выдаткавана 75,6 працэнта ад запланаваных, а запланавана было ў два разы менш, чым прадугледжана Законам «Аб культуры». На ахову здароўя выдадзена 77,3 працэнта ад запланаваных, а запланавана было амаль на 30 працэнтаў меней, чым прадугледжана Законам «Аб ахове здароўя». Ня лепшае становішча і з фінансаваньнем сістэмы адукацыі. На 78,6 працэнта выкарыстаны сродкі, запланаваныя на правядзеньне выбараў, а на 1996 год сродкі на правядзеньне выбараў наогул не прадугледжваюцца.

Дэкларуючы на словах сваю прыхільнасьць да рынкавых рэформ і прадпрымальніцтва, Урад на самой справе не пацьвярджае гэта. Удзельная вага бюджэтных сродкаў, выдаткаваных у 1995 годзе на падтрымку сялянскіх /фермерскіх/ гаспадарках склала ў агульных расходах рэспубліканскага бюджэту 0,169 працэнта. Яшчэ менш увагі з боку Ураду ўдзяляецца прадпрымальнікам. У 1995 годзе дзяржаўнаму Фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў выдаткавана 6,3 мільярда рублёў сродкаў рэспубліканскага бюджэту , што складае 0,024 працэнта ад агульных расходаў рэспубліканскага бюджэту. Між тым, у 1995 годзе ўдзельная вага падаткаў, унесеных у бюджэт Рэспублікі Беларусь прадпрымальнікамі ў агульнай суме усіх падаткаў, унесеных у бюджэт склала 9,3 працэнта.

Доля сродкаў выдаткаваных на фінансаваньне народнай гаспадаркі ў 1994 годзе перавышала 27 працэнтаў ад агульных сродкаў кансалідаванага бюджэту, у 1995 годзе склала ў зацьверджаным Вярхоўным Саветам бюджэце 26 працэнтаў, у дакладзеным прэзідэнтам - 21 працэнт, а ў праекце бюджэту на 1996 год - менш за 17 працэнтаў.

Невыпадкова, што ўдзельная вага прамысловасьці ў ВУП на 1996 год прадугледжана на ўзроўні 14,4 працэнтаў. У той час, як у 1995 годзе яна складала 16,3 працэнта, а ў 1994 годзе - больш за 17,5 працэнтаў.

**Павет**

## КАМУНІСТЫ СТВАРАЮЦЬ САБЕ ІМІДЖ

**Калі пішуцца гэтыя радкі, яшчэ невядома, чым закончыцца абмеркаваньне праекту бюджэту на сёлетні год. Гэта пытаньне, безумоўна, стане першым важкім экзаменам для Вярхоўнага Савету. Дэпутаты магчыма таму і не сьпяшаюцца. Заслухалі віцэ-прэм'ера Лінга — зрабілі перапынак, заслухалі міністра фінансаў Дзіка і в.а. старшыні Ныцянальнага банку Кузьміча — пайшлі працаваць па камісіях і фракцыях.**

Але ўсе ж, можна падвесьці першыя вынікі працы новага парламанту. Унутры яго ідзе напружаная барацьба паміж рознымі палітычнымі сіламі. Тут фору даюць камуністы і прадстаўнікі прэзідэнцкага асяроддзя.

Камуністам удалося ўзяць пасаду першага намесьніка сьпікера, а на пасаду сьпікера пасадзіць блізкага ім чалавека — аграрыя Шарэцкага. Камуністам таксама ўдалося забраць нямала партфеляў у камісіях. Але што гэта за камісіі — па культуры, правах чалавека, сацыяльным забесьпячэньні, ахове чалавека, ды іншыя, вынікі працы ў якіх ня так заўважны, як скажам, у эканамічных, пасады кіраўнікоў якіх яны аддалі дэмакратам. Камуністы мэтанакіравана ствараюць сабе добры імідж. Так, Сяргей Калякін заявіў аб неабходнасьці правесьці давыбары Вярхоўнага Савету, а Валерый Шчукін пачаў бараніць беларускую мову, у той час, калі дэмакраты баяцца гэта рабіць. Зразумела, камуністы набылі ачкі. Фракцыя ПКБ магчыма пойдзе на тое, што стане дабівацца, каб зарэгістравалі дэпутатам народнафронтаўца Валяніціна Голубева, лёс якога пакуль вырашае выбарчая камісія.

Адзін камуніст заўважыў у прыватнай размове, што ў акрузе, дзе балатаваўся Голубеў, усё роўна члены ПКБ у Вярхоўны Савет ня пройдуць. А адзін бэнээфавец у парламанце надвор'я ня зробіць. Зрабіўшы такое, камуністы прадэманструюць, што, маўляў, гатовы супрацоўнічаць з дэмакратычнымі сіламі, не баяцца БНФ і выступаюць за законнасьць і паразуменьне.

Прэзідэнт умацаваў сваё становішча пасьля абраньня намесьнікам сьпікера Юрыя Малумава, а таксама старшынямі праваых камісій сваіх людзей. Ведаючы арганізатарскі вопыт Малумава ў час прэзідэнцкіх выбараў, можна сьцвярджаць, што і ў Вярхоуным Савеце ён здолее не раскалоць рады паплечнікаў Лукашэнкі.

Увогуле, аграрыі пакуль не высоўваюцца. Узялі сабе толькі тры партфелі старшынь камісій, прычым дзьве з іх звязаны з аграрнымі пытаньнямі. Здаецца, у гэтай фракцыі няма выпрацаваных стратэгіі і тактыкі ў вырашэньні пытаньняў, ня зьвязаных з сельскай гаспадаркай, а яе заявы, што аграрная партыя, як і аграрная фракцыя зьяўляюцца не сельскагаспадарчымі, а агульнанароднымі —проста блеф.

Фракцыя «Грамадзянскае дзеяньне» пакуль слабая ў вырашэньні агульнапалітычных пытаньняў. Ня можа яна аказваць уплыў з-за сваёй малой колькасьці членаў. Але ў эканамічных пытаньнях фракцыя можа зрабіць многае. Хаця б блакіраваць няўгодныя прапановы.

Пасьля адыходу Віктара Кучынскага з сацыял-дэмакратычнай фракцыі, яна стала аморфнай. Віктар Францавіч прабыў сацыял-дэмакратам нядоўга. Яго запасілі таму, што ў фракцыі не хапала людзей. Ён згадзіўся, бо, відаць, у фракцыі «Згода» быў далека не на першых ролях, што біла па яго самалюбству. Але і сярод сацыял-дэмакратаў Віктару Кучынскаму таксама аказалася мала месца, каб размахнуцца на усю сваю моц. І ён заявіў аб выхадзе з фракцыі і стварэньні новай — «У абарону народу». Базіравацца яна будзе на арганізацыях абманутых укладчыкаў, казакоў, афіцэраў... Кучынскі нават прапанаваў стварыць часовую дэпутацкую камісію, якая б занялася праблемамі падманутых укладчыкаў. Зразумела, узначаліць яе павінен ён. Пакуль дэпутаты ўстрымаліся ад такога, бо памятаюць, чым закончылася стварэньне часовай камісіі па барацьбе з карупцыяй, якую ўзначальваў Аляксандр Лукашэнка.

**Ул. СЕМЯНЦОЎ.**

## НЯМА ЛЕСУ БЕЗ ВАЎКА, СЯЛА БЯЗ ЗЛОДЗЕЯ

**30 студзеня ва Упраўленьні ўнутраных справаў аблвыканкаму адбыўся брыфінг для журналістаў, на якім начальнік УУС, палкоўнік Белашэўскі пазнаёміў прысутных з станам злачыннасьці ў вобласьці па выніках 1995 году.**

За мінулы год на Гарадзеншчыне загінула адна тысяча сто сорак восем чалавек. Кожнае трэцяе правапарушэньне адбылося ў Горадні. 999 разоў пераступілі закон падлеткі. Так, у кастрычніку 13-гадовы юнак забіў стоража сярэдняй школы N 35 у Паўднёвым. Усяго ж колькасьць цяжкіх злачынстваў у вобласьці ўзрасла больш, чым у тры разы, а колькасьць правапарушэньняў у галіне эканомікі - на чвэрць. Ці здольная сёньня гарадзенская міліцыя спыніць разгул бандытызму? Надзея ёсьць - па працэнту раскрывальнасьці злачынстваў вобласьць займае ў краіне першае месца. Але ўпэўненасьці няма - злачынцаў посьпехі нашых міліцыянтаў пакуль ня вельмі палохаюць.

**Вітаўт РУДНІК.**

## СТВОРАНА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ВЫШЭЙШАЙ ШКОЛЫ

**25 студзеня ў будынку факультэту беларускай філалогіі Гарадзенскага ўніверсітэту адбыўся сход, на якім прысутнічалі некалькі дзесяткаў выкладчыкаў усіх ВНУ Горадні, дырэктары беларускамоўных школ і прадстаўнікі гарадзкой арганізацыі ТБМ. Пасьля двухгадзіннага абмеркаваньня праблем беларускамоўнага навучаньня і вышэйшай школы, была створана новая грамадзкая арганізацыя -Таварыства Беларускай Вышэйшай Школы.**

Мэта арганізацыі - спрыяньне разьвіцьцю на Беларусі адукацыі нацыянальнай па форме ды зьместу і эўрапейскай па ўзроўню. У склад ТБВШ увайшло больш 30 выкладчыкаў з усіх ВНУ Горадні. Абрана рада з 5 чалавек. Старшынём стаў прафесар медінстытута, доктар медыцынскіх навук Алесь Астроўскі, намесьнікам -прафесар універсітэту доктар юрыдычных навук Мікалай Сільчанка.

Сябры ТБВШ прынялі звароты да старшыні ВС С.Шарэцкага, міністра адукацыі В.Стражава, старшыні гарадзенскага аблвыканкаму А.Дубко.

У звароце да старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі, у прыватнасьці, гаворыцца:

«Паважаны Сямён Георгіевіч! ...

У старажытнай Горадні больш 50 працэнтаў навучэнцаў сярэдніх школ, якія наведваюць зараз 1-6 класы, навучаюцца на роднай беларускай мове. У большасьці раёнаў Гарадзеншчыны гэтыя ж паказчык набліжаецца да 100 працэнтаў. Праз 5 гадоў у ВНУ Горадні ў большасьці (а па ўсёй Беларусі масава) пачнуць навучацца студэнты, якія атрымалі сярэднюю адукацыю на беларускай мове. Такім чынам, да 2000-га году ВНУ нашай краіны павінны быць падрыхтаваны для таго, каб даць вышэйшую адукацыю па любой сьпецыяльнасьці на беларускай мове. Нагадаем, што гэтага ж патрабуе і заканадаўства.

Улічваючы дадзеныя абставіны, існуе надзённая неабходнасьць актывізаваць працэс беларусізацыі Вышэйшай школы. Аднак мы бачым, што адбываецца адваротнае. Падрыхтоўка да ўвядзеньня беларускамоўнай адукацыі праводзіцца ў большасьці ВНУ (у тым ліку і Горадні) недастаткова. Больш таго, існуюць праявы вярнаньня старых, аджыўшых тэндэнцый. Ёсьць спробы дыскрэдытаваць ярлыком «нацыяналіст» патрыятычна настроеных выкладчыкаў і кіраўнікоў ВНУ, якія вядуць навучаньне па-беларуску ці хаця б не перашкаджаюць натуральнаму працэсу беларусізацыі.

У сувязі з гэтым, зьвяртаемся да Вас з просьбай аказаць садзеяньне працэсу беларусізацыі Вышэйшай школы і ўзяць яго пад асабісты кантроль. Мы просім разгледзець дадзеную праблему на сьпецыяльным паседжаньні Вярхоўнага Савету і прыняць адпаведную праграму, разьлічаную да 2000 году.»

## ПРЫГАВАРЫЦЬ ДА СЬМЕРЦІ

**У мінулую пятніцу была пастаўлена кропка ў адной з самых жахлівых гісторый Горадні апошніх гадоў.**

Навіна аб забойстве маладой сям'і на вуліцы Церашковай, улетку 1994 году ускалыхнула ўвесь горад. Забойца, якому гаспадары давяралі адчыніўшы дзьверы, хладнакроўна застрэліў мужа, жонку і зьнік. Магчыма хаваўся ён і сёньня, калі б не уласная скваўнасьць.

Злачынца вырашыў зарабіць на продажы пісталета, з якога зьдзейсьніў забойства. Праз некаторы час новыя ўладальнікі зброі, пайшоўшы «на справу», трапілі ў рукі міліцыі. Балістычная экспертыза адразу ж вызначыла, што менавіта з гэтай зброі і была забітая маладая сям'я. «Незадачлівыя ўладальнікі пісталета адразу ж «здалі» прадаўцоў.

Сьледства ўстанавіла, што ў той ракавы дзень гарадзенец Нячаеў прыйшоў да Куца і Ігнатовіч з мэтай вымагчы запазычаныя яму грошы. Не атрымаўшы іх, дастаў зброю...

Пад час сьледства злачынца спрабаваў сімуляваць псіхічнае захворваньне. 19 студзеня суд прыгаварыў Нячаева да сьмяротнай кары.

**В.АНІМУЦКІ.**

## ЖЫЦЦЁ ПА ПАПЕРЦЫ

**Беларусь зьяўляецца адной з нешматлікіх краінаў сьвету, якая ня мае ўласнага грамадзянскага пашпарту. Між тым, на складах сёньня пакрываюцца пылам выробленыя за мільёны долараў пашпарты новага ўзору. З «Пагоняй» на вокладцы. Такі пашпарт пад нумарам першым мае нават Аляксандр ЛУКАШЭНКА. Аднак менавіта дзякуючы яго намаганьням, грошы, выдаткаваныя на беларускія пашпарты, аказаліся выкінутымі на вецер, а тысячы грамадзян Беларусі вымушаныя жыць па даведках.**

Як паведаміў на брыфінгу для журналістаў начальнік аддзелу па кіраваньню пашпартна-візавай службы УУС аблвыканкаму, палкоўнік міліцыі Мікалай Якубовіч, сёньня ў аддзеле засталіся лічаныя дзесяткі пашпартоў савецкага ўзору. Дайшло да таго, што нават шлюбы ўжо рэгіструюцца па даведках. Пашпартна-візавая служба мае сёньня неабходную колькасьць новых, беларускіх бланкаў, якіх хапіла б для пашпартызацыі ўсяго насельніцтва вобласьці. Аднак па загаду з Менску іх выдача спынена.

У хуткім часе павінен убачыць сьвет Указ прэзідэнта аб дадатковых мерах па актывізацыі пашпартызацыі насельніцтва. У Канадзе прайшоў эспертызу пашпарт лукашэнкаўскага ўзору, але грошай на яго масавы выпуск няма і не прадбачыцца. Так што «актывізацыя», хутчэй за ўсё выльецца ў павелічэньне колькасьці людзей, вымушаных жыць па паперках. Розуму, каб выдаць людзям ужо гатовыя пашпарты з «Пагоняй» наўрад ці хопіць...

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**







# ВАСІЛЬ БЫКАЎ ПРА НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ІДЭЮ.

## З ВЫСТУПУ НА СОЙМЕ БНФ 13 СТУДЗЕНЯ.

**«Ісьціны самыя важныя ёсьць самыя элементарныя. Такой элементарнай ісьцінай у наш час зьяўляецца нацыянальная ідэя. Але нават цяпер беларусы не зразумелі сваім даволі тугім розумам, што без ажыцьцяўленьня гэтай ідэі немагчыма нічога астатняга. У гісторыі дастаткова прыкладаў таго, як будаваліся дзяржавы на нацыянальнай ідэі.**

У Беларусі так не атрымліваецца, таму што нічога астатняга не атрымліваецца. Мы спазьніліся. І ў гэтым нашае няшчасьце. Спазьніліся найперш з ажыцяўленьнем нацыянальнай ідэі. У той час, як іншыя пайшлі далей і, увогуле, для іх нацыянальная ідэя перастала быць прыярытэтнай, і на парадак дня прыйшлі новыя ідэі, мы яшчэ вымушаны вяртацца ў XIX стагоддзе. Гэта жахліва ва ўсіх адносінах. Славуты амерыканскі філосаф Фрэнсіс Укаяма, аўтар знакамітай працы «Канец гісторыі», якога яшчэ часта называюць апошнім адвакатам нацыяналізму, гаворыць, што ў барацьбе з камуністычным таталітарызмам нацыяналізм самая дзейская і выніковая сіла, і гэта, безумоўна, так. Але справа ў тым, што ў нас яшчэ на ўзроўні дэфініцыі ня вызначана розьніца паміж нацыяналізмам і нацыянальнай ідэяй. Нават разумныя людзі, патрыёты беларускасьці лічаць абвінавачваньне ў нацыяналізме абразаю. Той жа Укаяма гаворыць, што гэтаму ў значнай ступені паспрыяла Другая сусьветная вайна і нямецкі нацыянал-сацыялізм, г.зн. нямецкі нацыяналізм, які зрабіў з нацыянальнай ідэі паняцьце адыёзнае, а для многіх страшнае. І гэтым, канешне, карыстаюцца ворагі, у тым ліку і ворагі дэмакратыі, таму што нацыянальны дэмакратызм - гэта нешта значнае, што ня могуць адвергнуць цалкам і камуністы.

Безумоўна, Беларускі Народны Фронт дамогся шмат чаго, нават калі ён не дамогся ўлады, ці якіх-небудзь эканамічных зрухаў. Ужо адным сваім існаваньнем на працягу 6 гадоў ён шмат зрабіў для ажыцьцяўленьня нацыянальнай ідэі. Безумоўна, абсалютна правільна, што ў аснове нацыі, існаваньня яе ляжыць мова, мову трэба берагчы, але для мяне не зразумелыя прыярытэты мовы і дзяржаўнасьці, калі, напрыклад, зыходзіць з нашай практыкі. Мы бачым тут пэўны парадокс: дабіцца поўнаўладнага ажыцьцяўленьня моўнай праблемы не магчама без дзяржаўнасьці і ў той жа час, пабудаваць дзяржаву немагчыма без вырашэньня моўнай праблемы.

Як паказаў невялікі досьвед, усе мэты і ўстаноўкі БНФ абсалютна правільныя, але і Фронту аказалася не пад сілу выцягнуць дзьве гэтыя праблемы - моўнасьці і дзярджаўнасьці. Можа быць, не хапіла сілы, можа памыліліся з прыярытэтамі. Калі не хапае сілы на ўсё, трэба засяродзіцца на нечым адным. Асабліва гэта яшчэ важна таму, што мы ня можам загерметызавацца, а танкі - ня наша мэта і ня наш спосаб. Значыць так ці інакш давядзецца, калі не абапірацца, то хаця б трымаць сувязі з дэмакратыямі іншых краін, у першую чаргу заходніх, і ў той жа час, як гэта ні дзіўна на першы погляд, і з квазідэмакратыяй расейскай. Бяз гэтага мы проста не абыйдземся. Трэба вызначыць нашыя адносіны з рускамоўнай беларускай дэмакратыяй, паколькі яна тут бліжэй за ўсё. «Свабода» мае рацыю , калі друкуе добрыя артыкулы на расейскай мове, таму што гэта працуе на карысьць нашай нацыі, на карысьць нашай дэмакратычнай нацыянальнай ідэі».

# ТАК ТРЫМАЦЬ, «АЛЬЯНС»!

**Днямі ў сядзібе Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» у Менску адчынілася фотавыстава «Новы пачатак», падрыхтаваная сябрамі Беларускага Дэмакратычнага Маладзёжнага Альянсу імя Вітаўта Вялікага.**

Мэта выставы - прыцягнуць увагу сяброў БНФ «Адраджэньне» да Гарадзеншчыны ў цэлым і да Беларускага Дэмакратычнага Маладзёжнага Альянсу ў прыватнасьці.

Тэма фотаработ - старажытны горад, яго наваколле і жыхары. Свае працы выставілі Віталь Нікановіч, Андрэй Кур'ян, Сяргей Рудагін, Валера Папоў.

Шырокае абмеркаваньне выстаўленных работ адбудзецца пасьля паседжаньня сойму БНФ «Адраджэньне» 10 лютага.

**ЮЛЬЯН ІЗАБЭЛАЎ.**

# АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Паважаны Сямён Георгіевіч!*

*Мы, ветэраны вайны і працы, людзі пеньсійнага ўзросту, зьвяртаемся сёньня да Вас, як другой асобы нашай дзяржавы, не дзеля таго, каб прасіць для сябе нейкіх ільгот ці прывілеяў. Не! Не пра тое наш сёньняшні клопат. Мы ўжо неяк дажывем свой век. Бывала на нашай памяці і горш. Выжылі, дзякуй Богу.*

*Найпершы клопат наш сёньня пра сыноў і ўнукаў, пра делейшых нашчадкаў нашых. У якой дзяржаве давядзецца ім жыць? Пры якіх умовах? Ці застануцца беларусамі? На жаль, гэтыя пытаньні набываюць у нашыя дні асаблівы сэнс, бо адказаць на іх пэўна цяжэй, чым калі б там ні было раней. Не сакрэт, што апошнім часам ідзе наступ на беларускую мову, нацыянальную культуру і, у выніку, на нашу дзяржаўнасьць. Ставяцца пад пагрозу нядаўнія запаветы маладой беларускай дэмакратыі: незалежнасьць і нейтралітэт краіны. У цяжкае становішча трапіла школа і вышэйшыя навучальныя ўстановы, якія ўсяго толькі некалькі гадоў таму павярнуліся тварам да беларушчыны.*

*Ня будзем удавацца ў падрабязнасьці. Вы, несумненна, ня горш за нас ведаеце сітуацыю ў краіне. Калі будзе ў гэтым неабходнасьць, прыкладаў і фактаў можна прывесьці безьліч.*

*Выказваем шчырае спадзяваньне на тое, што Вы, паважаны Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, зробіце ўсё магчымае дзеля таго, каб разам з эканомікай выйшлі з крызіснага стану і наша культура, і наша адукацыя, каб беларуская мова набыла нарэшце на нашай зямлі сапраўдны, а ня ўяўны статус дзяржаўнай. І яшчэ просім: не давайце ў крыўду нашы старадаўнія нацыянальныя сімвалы: бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня». Мы, як і многія іншыя, падчас рэферэндуму галасавалі менавіта за гэтыя сімвалы. А хіба ж мы не частка свайго народу? Да того ж рэферэндум праводзіўся з парушэньнямі Канстытуцыі і таму ня мае юрыдычнай сілы. Як жа можна сьцьвярджаць, што цяперашняя сімволіка прынята ўсенародна? Гэта не адпавядае сапраўднасьці.*

*Мы, паважаны спадар Старшыня, марым пра тое, каб нашчадкі нашы жылі ў сапраўды незалежнай, дэмакратычнай, нейтральнай беларускай дзяржаве. І ня дай Бог ім брацца за зброю. А як давядзецца, дык толькі дзеля таго, каб бараніць родную Беларусь.*

*Упэўненыя, што Вы, як і бальшыня дэпутатаў, з якімі Вам наканавана працаваць разам, ня можаце не падзяляць гэтае высокае мары.*

**Цэнтральная Рада Беларускага Дэмакратычнага аб'яднаньня «Ветэран»**

***Прынята 18 студзеня 1996 г. г.Менск.***

# АХ, АЛЯКСАНДР РЫГОРАВІЧ...

**Замест уступу**

На выбарах у мінулым годзе я два разы быў кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь. Два разы вылучаўся ад партыі Беларускага Народнага Фронту і, вядома ж, у дэпутаты не прайшоў. Праўда, у другім заходзе ўдалося прабіцца ў другі тур.

У дэпутаты не прайшоў, але шмат чаго пабачыў, шмат чаго пачуў, асэнсаваў.

**Пра Гітлера**

Многіх прафесійных і непрафесійных палітыкаў вельмі зьдзівіла, што наш прэзідэнт у адным са сваіх шматлікіх інтэрв'ю пахваліў Гітлера. Мяне ж гэта зусім не зьдзівіла, даўно чакаў чагосьці падобнага, бо ня раз і ня два прыходзілася чуць ад камуністаў з вялікім партыйным стажам і ад людзей, настроеных пракамуністычна, што Гітлера нельга маляваць толькі чорнымі фарбамі, што ён зрабіў шмат карыснага для Германіі. У прыватнасьці, навёў дысцыпліну і падняў эканоміку. А ўжо потым і простыя людзі пачалі казаць: «Во каб нам Гітлера! Ён навёў бы парадак».

Само сабою (добра адчуў гэта на сваёй шкуры ў час выбарчай кампаніі) нішто не зьяўляецца. Хто ж распусьціў такія чуткі, у якім гнязьдзе яны нарадзіліся? Думаецца, у тым, над якім гарыць чырвоная зорка, дзе распальваецца пажар чарговай вайны. Нездарма з вуснаў некаторых камуністаў са стажам яны і прагучалі. Напэўна, такія людзі ёсьць і ў асяроддзі прэзідэнта. Нашэптвалі, знарок уводзілі яму ў вушы казку пра добрага дзядзьку Гітлера. Аляксандр Рыгоравіч, як і простыя людзі, гэткі тэзіс падхапіў і, ва ўласьцівай толькі яму манеры, уголас на ўвесь сьвет абнародаваў. Не магло ня стрэліць даўно зараджанае ружжо. Без сарказму, бяз сьмеху (бо тут не да сьмеху) скажу: Аляксандру Рыгоравічу ў свой час гэта горка аўкнецца.

**Чаму аўкнецца, ад каго і калі**

Вышэй прыпаміналася, што ў гнязьдзе пад чырвонай зоркай распальваецца пажар чарговай вайны. Так, колькі існавала камуністычная сістэма, столькі яна і ваявала. Вяла вайну супраць буржуінаў, супраць Белай гвардыі супраць сьвятароў. І супраць сялянаў, сілком заганяючы іх у калгасы. А цяпер у нас, на Беларусі, вядзе вайну і супраць ненавісных ёй «нацыяналістаў». Вядзе хітра, абачліва, часта наперад, як флагмана, выстаўляючы Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку. Маўляў, няхай яны (тыя нацыяналісты і прэзідэнт) ваююць, а мы адседзімся, тылы ўмацуем, каб распачаць рашаючую вайну - вайну за ўладу.

І распачалі. Ужо экватара дасягнула вайна за ўладу. Сілы амаль сабраныя ў адзін кулак. Чаму можна навучыцца ў камуністаў, дык гэта ўменьню змагацца за ўладу. Яны даўно зразумелі, што палітыка - брудная рэч. Таму ўсё пускаюць у ход: і хлусьню, і паклёп, і фальсіфікацыю. Калі трэба, і на струнках чалавечай душы добры вальс умеюць сыграць. А яшчэ яны не сьпяшаюцца, не фарсіруюць падзеі, выстрэльваюць у самы апошні, у самы рашучы час.

Наш прэзідэнт лічыць дасягненьнем, што стварыў моцную прэзідэнцкую вертыкаль. Сёньняшняя прэзідэнцкая вертыкаль, у маім разуменьні, -гэта старая камуністычная на-



менклатура. Гэтай уладзе любыя пераўтварэньні, што костка ў горле. Яны прывыклі да ціхага, спакойнага, сытага жыцьця, дзе няма сумятні, бегу, няхай сабе і на месцы. Цяперашні непрадказальны прэзідэнт для іх, што Пётр Першы для царскіх баяраў. «Неугоден» - і ўсё.

Аніводнай пахвалы ні ад аграрыяў, ні ад вертыкальшчыкаў ня чуў у адрас прэзідэнта. Некаторыя, калі заходзіла аб ім гаворка, шматзначна, з сарказмам усьміхаліся, іншыя хітра разважалі, што прэзідэнты за адзін дзень ня родзяцца (цароў гадамі рыхтавалі, выхоўвалі, генсекаў рыхтавалі, выхоўвалі, па службовай лесьвіцы з прыступкі на прыступку падымаючы, глядзелі, каб, крый Бог, ніводнай без дазволу не пераступіў). А ёсьць такія, рангам паменш, якія праўду-матку, як гаворыцца, ў вочы рэзалі. І гэтая праўда-матка паціху ідзе ў народ, як ішлі выказваньні пра Гітлера. Цяперашняя прэзідэнцкая вертыкаль - міннае поле для Аляксандра Рыгоравіча.

Яму здаецца, што вертыкальлю кіруюць зьверху. Ня зьверху, а зьнізу. Райкамы партыі вертыкальшчыкаў прыбралі да рук. А вялікія вертыкальшчыкі з Цэнтру заплюшчваюць вочы, ня бачаць. З заплюшчанымі вачыма надзейней і спакайней. Такая гульня даўно знайшла сваю назву: і нашым, і вашым.

Канешне, іншы раз «проворовавшегося боярина» для прыкладу можна прыструніць, пацягаць за бараду, як, бывала, цягаў Пётр Першы. Але ён, баярын-вертыкальшчык, сьцерпіць, прагнецца, нават у ручку плюсьне, каб потым грозна заявіць: «Пришёл Судный день».

Страшнае міннае поле ўласнымі рукамі стварыў прэзідэнт. На апошніх выбарах яно ўжо спрацавала не на ягоную карысьць. Пайшла размова пра прамое прэзідэнцкае кіраваньне - і камуністы выпускаюць улётку пад красамоўным загалоўкам, бы пад фашысцкай навалай: «Отечество в опасности!»

Як патрывожаны незычліўцам мурашнік, заварушылася вертыкаль. Заварушылася, мабілізавалася (як жа, планы парушаюцца, вось-вось рухнуць), каб стварыць парламант, правесьці ў яго дэпутатаў-камуністаў. А калі не камуністаў, дык, так званых, незалежных, сваіх, у каго партыйны білет нагатове. Ніякіх сродкаў дзеля гэтага не пашкадавалі. Пайшло ў ход усё: і фінансы, і фальсіфікацыя, і кулаком для страху білі па стале. Калі прэзідэнт раптам угневае, то ёсьць крыша для апраўданьня: дзейнічалі так актыўна, бо бэнээфаўцаў стараліся не прапусьціць. Не прапусьцілі, запынілі, раскрыжавалі, нават прыняты дваццаціпяціпрацэнтны кворум на галасаваньне адмянілі. Зусім не ад таго, што прэзідэнта пабаяліся. «А суддзі хто?» - хочацца нагадаць крылатае. Усё абдумана, усё прадумана, да драбніцаў.

І Аляксандр Рыгоравіч прыклаў сваю руку, каб не прапусьціць бэнээфаўцаў. Але, па ўсім бачна, стараючыся, перастараўся.

Выбралі шэраг дэпутатаў, ёсьць Вярхоўны Савет з выразнай камуністычнай большасьцю. Камуністы ўжо не хаваюць , што яны супраць прэзідэнцкай улады. Калі супраць, то, безумоўна, заўтра ці пасьлязаўтра прэзідэнцкую пасаду скасуюць. Напрыклад, пад выглядам аб'яднаньня з Расеяй, сыграўшы на струнах прэзідэнцкай душы. У многіх сродках масавай інфармацыі ўжо гаварылася, што Аляксандр Рыгоравіч ня супраць таго, каб узьлезьці на белага крамлёўскага каня. Ня ведаю, як ёсьць на самай справе, але ён часта, падкрэсьліваючы, называе сябе маладым палітыкам. А маладым хочацца.

Ці можна клюнуць на гэтага хітра насаджанага на кручок чарвяка? Бясспрэчна , можна, нават не маладому, асабліва калі лісьліўцы роем гудзяць: «Аб'яднаешся - і ты на белым кані».

Вядома ж, у адной дзяржаве, няхай і аб'яднанай на нейкай аснове, ня можа быць двух раўназначных прэзідэнтаў. Значыць, тут могуць спрацаваць два варыянты: альбо праз Вярхоўны Савет зусім скасоўваць прэзідэнцкую пасаду, альбо прэзідэнта значна абмежаваць у правах. Бяспраўны прэзідэнт ня страшны. Няхай ідзе, ваюе з магутнай Масквой. Там чакаюць, ня сьпяць у шапку хлопцы з камуністычнай закваскай, якія ў думках даўно закілзалі белага крамлёўскага каня. Яны добра ведаюць прымаўку: «Глуп тот, кто дважды спотыкается об один и тот же камень». Шлях сабе расчышчаючы, яны прыбралі нямала камянёў. Дзеля ачарненьня ўсё ўспомняць , у тым ліку і выказваньне пра Гітлера. Нагадаем лістоўку «Отечество в опасности!» Ах, Аляксандр Рыгоравіч!

**Замест эпілогу**

"Што рабіць? " - вечнае пытаньне. Думаецца, што кіраўніцтву Беларускага Народнага Фронту ня сьлед сядзець на палітычнай узбочыне, як Бабе з байкі К.Крапівы, якая саскочыла з колаў. Трэба ісьці на кантакт з прэзідэнтам. А прэзідэнту трэба павярнуцца тварам да нацыянальнага Адраджэньня, зрабіць усё дзеля таго, каб не загінула наша культура, каб беларусы з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў сфармаваліся як беларускі народ.

Звышхітрыя палітыкі і палітыканы ні з Захаду, ні з Усходу нам не дапамогуць. Ведайце, прэзідэнт: гульня на разьбітым непагаддзю полі пакуль ідзе ў адны вароты. І ў гэтых варотах Вы - брамнік.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ,**
**член Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, сябра Партыі БНФ.**





# ЭКАНАМІСТЫ, СТАЛІН ДАЎ ЗАГАД!

**Стомленыя працаўнікі доўгіх папер, жанглёры лічбаў. Некалі пра іх склалі анекдот: Масква. Чырвоная плошча. Вайсковы парад. Танкісты ды іншыя жаўнеры. А за імі раптам натоўп нязграбнымі радамі: нейкія змрочныя жанчыны ў перакошаных спадніцах і падраных панчохах, у зубах - папяроскі. Гарбаватыя мужчыны ў адлакаваных сядзеньнем нагавіцах. Брэжнеў паварочваецца да Андропава: «Юра, твае? чакісты?» «Не, Леанід Ільіч, гэта гаспланаўцы-эканамісты - самая моцная наша зброя. Дзесятак такіх у Амерыку - і праз паўгода Амерыцы канец.»**

Чаму яны ўсюды правадыры і стваральнікі, а ў нас - той самы зад? Цікава зразумець гэты гістарычны парадокс.

Агульнавядома, што аснова ўсякага эканамічнага разьліку - прыход і расход. У самых буйных заходніх і амерыканскіх канцорцыумах і нават невялікіх фірмах - кожная кантора, у якой існуе бухгалтэрыя, робіць яго па-свойму, нясе пры гэтым поўную адказнасьць за канчатковы вынік.

Галоўным паказчыкам у іх зьяўляецца не аварот, а хуткасьць абарачальнасьці тавару, а галоўным крытэрыем - ня попыт, а зьмяньлівасьць попыту. І тут эканоміка ўжо ня проста ўлік і статыстыка, а мастацтва, кшталту класічнай музыкі.

Інакш і быць ня можа. Аднак, ня ў нас. Ад Камчаткі да Горадні на ўсе бухгалтэрыі «былой» дзяржавы была спушчана калісьці і дзейнічае сёньня вялізная сетка адзіных правіл і інструкцый. І нашыя стомленыя, заўжды пакорлівыя, у большасьці малакроўныя жанглёры ледзь рухаюцца ў гэтым павуціньне, як мухі, губляючы апошнія сілы і нічога не разумеючы. Мабыць, як можа так быць, калі мы падлічваем і ўлічваем кожны болцік, кожную нітачку і кілавацік, а эканоміка ўсё бліжэй і бліжэй да сьмяротнай рысы!

Дзеля праясьненьня возьмем хоць адзін дакумант, які дзейнічае і сёньня, як абавязковы загад усім бухгалтарам і эканамістам Беларусі. Толькі адзін з вялікага мноства!

Гэта Пастанова Савету Міністраў СССР от 24 студзеня 1980 году N 59 «Аб мерах па ўдасканаленьні арганізацыі бухгалтарскага ўліку і павышэньні яго ролі ў рацыянальным і эканомным выкарыстаньні матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў». У ім пяць задач для эканамічных службаў, якія скарыстоўваюцца сёньня як у дзяржаўных, так і ў камерцыйных прадпрыемствах.

1. Забесьпячэньне своечасовага, поўнага і дакладнага адлюстраваньня фактычных затратаў, зьвязаных з вытворчасьцю прадукцыі.

2. Своечасовае і дакладнае адлюстраваньне па ўліку выпуску прадукцыі паводле колькасьці, якасьці і асартыменту, і кантроль за выкананьнем іх выпуску.

3. Калькуляваньне фактычнага сабекошту прадукцыі і выяўленьне вынікаў гаспадарчай дзейнасьці цэхаў, аддзелаў і прадпрыемстваў уцэлым.

4. Кантроль за рухам і захаванасьцю матэрыяльных каштоўнасьцяў у вытворчасьці, выкарыстаньнем працоўных і грашовых рэсурсаў з выяўленьнем адхіленьняў ад нормаў у разрэзе прычынаў і вінаватых.

5. Выяўленьне нявыкарыстаных рэзерваў вытворчасьці, барацьба з безгаспадарчасьцю, стратамі ад браку і прастояў ды іншымі невытворчымі расходамі.

Прабач, шаноўны Чытач, напісаўшых гэта! Добрыя, вядома, добрыя, але... неажыцьцявімыя задачы. Яны не патрабуюць разгорнутай крытыкі, бо няма сэнсу крытыкаваць галюцынацыі.

«Мы ўлічваем кожны выкарыстаны цьвічок, усялякую шайбачку і нават пылінку» - закрычаць у адказ нашыя падлікоўцы і нават дадуць паперы.

А тым часам звыклы працоўны, непасрэдна выpабляючы тую ці іншую рэч, элементарна дакажа адваротнае, калі згодзіцца на шчырасьць. Ён прыкладна адкажа так: «Нават пяць вартаўнікоў вакол майго працоўнага месца ня ўбачаць, як я краду».

Дзейнічае мноства інструкцый і метадаў, з дапамогай якіх наш працаўнік лічбаў падлічвае брыгадныя, цэхавыя, агульныя ды іншыя выдаткі, уключаючы іх у кошт прадукцыі на продаж.

Цэлая армія бухгалтараў і эканамістаў сілкуе вочы, і,як правіла, вынік гэтых падлікаў супадае з патрабаваньнямі... не рэальнасьці, а кантралюючых арганізацый, бо яны карыстаюцца тымі ж пастановамі і інструкцыямі.

І калі спытаць адміністрацыю заводаў: «Гэй, мужыкі, чаму стаім?!». У адказ грымне глумаўскае: «А ў нас на паперы ўсё добра!».

На адным гарадзенскім прадпрыемстве правялі патаемны эксперымент. Зьявярнуліся паасобку да трох эканамістаў і трох бухгалтараў зрабіць калькуляцыю на адзін той самы прадмет. Усе карысталіся адной інструкцыяй: «Типовые указания по применению нормативного метода учета затрат на производство и калькулирование нормативной и фактической себестоимости продукции» /Утверждены Минфином СССР, Госпланом, Госкомцен и ЦСУ СССР 24 января 1983 года N 12/.

Вынік эксперыменту быў ашаламляльны. Усе шэсьць чалавек прынесьлі розныя вынікі ў цэнавым выражэньні, якія не супалі з адказам галоўнага эканаміста. Цікава і тое, што ўсе гэтыя людзі атрымалі вышэйшую эканамічную адукацыю ў адной ВНУ.

А вось яшчэ адзін вынік эканамічных разьлікаў сёньня, калі оптавыя і розьнічныя цэны адпушчаны на адносную свабоду. Ня маючы ніякага ўяўленьня аб метадах працы, якія правераны чалавецтвам, нашыя працаўнікі разумеюць і ажыцьцяўляюць палітыку цэн толькі на павышэньне. На паніжэньне - нельга, тады на паперах атрымліваюцца адныя страты. Тут справа ў неразборлівасьці у паказчыках, якія дзейнічаюць яшчэ з часоў Сталіна. Гэтыя паказчыкі робяць немагчымым зьніжэньне цэн на тавар.

А ўжо пра дэмпінгавую палітыку, якая так патрэбна сёньня рэспубліцы, няма чаго і гаварыць.

Але і тут небясьпечна. Зьдзейсьнім прапанаўваемыя ўмовы. Напрыклад, урад панізіць цэны агулам по ўсёй рэспубліцы. Пачнецца вымятаньне прылаўкаў, бо ў нас інакш ня могуць: таталітарны рэжым! Вось бы ўвесьці таталітарныя метады там, дзе яны неабходны: у медыцыне, сацыяльным забясьпячэньні і г.д., але не, яны дзейнічаюць на эканоміцы і прэсе.

Дзяржава ў асобе розных вертыкаляў пeратварыла сябе ў замкнёнае кола, і, замест таго, каб займацца дапамогай і садзейнічаньнем свабоднаму абмену ідэямі, таварамі і інфармацыяй, што зьяўляецца галоўнай яе функцыяй у тэхнатроннае стагоддзе, узброілася Замяталінам, які так «замяталівае», што хутка ня будзе чым дыхаць.

А ў гэты час нашыя працаўнікі падлічваюць і падлічваюць: затраты на працу, на вытворчасьць, на тавара-транспартныя расходы, на электраэнергію. Па інструкцыям, па пастановам, па патрабаваньням кантралюючых і правяраючых. Нібыта ня ведаюць /а можа сапраўды?!/, што аб'ектыўнага сувымяральніка затрат на вытворчасьць прадметаў культуры, тавараў і таварных форм чалавецтва яшчэ не прыдумала, спынілася на тым, што з гэтай справай спраўляецца рынкачная стыхія, шматварыянтнасьць, пошук, таленты.

Нам ужо не патрэбны падлікоўцы. Пажаданы Моцарты і Скрабіны ад эканомікі, бо надта высокая ступень эканамічнага і палітычнага вар'яцтва, якое ахапіла ўсю нашу краіну. Яны ёсьць, яны побач. Пытаньне ў іншым: ці згодзяцца яны супрацоўнічаць з прадстаўнікамі сёньняшняга рэжыму?

**А.МАЛАШЭНКА.**

# ПРАДАЦЬ КРАМУ ЛЯГЧЭЙ, ЧЫМ КАРЦІНУ

**Гарадзенскія бізнэсмэны яшчэ не настолькі багатыя, каб дазволіць сабе купляць на аўкцыёне карціны. Грошай пакуль хапае толькі на крамы. Мільярда, гэтак, за паўтара.**

Такую выснову можна было зрабіць пасьля XYI гарадзенскага аўкцыёну па продажы камунальнай маёмасьці, які адбыўся 30 студзеня.

З шасьці выстаўленых на продаж аб»ектаў была прададзена палова. Спачатку за 20 мільёнаў /стартавы кошт - 3 мільёны/ з малатка пайшло права забудовы па вуліцы Гараднічанскай. Затым у прыватную ўласнасьць перайшлі дзяржаўныя крамы «Аэліта» і N 44 па вуліцы Гагарына. Новаму ўласьніку яны абыйшліся ў адзін мільярд шасьцьсот мільёнаў рублёў. З другой спробы гарадзкім уладам удалося прадаць краму «Ліра» на вул. Пушкіна, на якую прэтэндаваў усяго адзін пакупнік. 23 мільёны з кішэні -і 63 аб'ект у вобласьці перайшоў у прыватныя рукі. Агульная ж сума прададзеных на Гарадзеншчыне аб'ектаў склала пасьля гэтага аўкцыёну каля 34 мільярдаў рублёў.

XYI гарадзенскі аўкцыён быў адначасова і 50-м на Беларусі, праведзеным пад эгідай Міжнароднай фінансавай карпарацыі. З гэтай нагоды ў зале прысутнічалі кіраўнік праекту «Малая прыватызацыя ў Беларусі» Юлія Цэціна, другі сакратар пасольства ЗША ў нашай краіне Антон Годфры, прадстаўнікі гарадзкіх уладаў Горадні, Берасьця, Гомеля, Віцебска, Воршы, Баранавічаў, Навагрудку, Ліды, загадчык сектара эканамічнага ўпраўленьня кабінета міністраў сп. Вярэніч, начальнік упраўленьня Міндзяржмаёмасьці сп.Халынская ды іншыя.

З нагоды юбілея для гасьцей і ўдзельнікаў аўкцыёну быў прапанаваны продаж з малатка твораў вядомых гарадзенскіх мастакоў. Аднак ніводная карціна так і не была прададзена, нягледзячы на выключныя рэкламныя здольнасьці аўкцыяніста Віктара Шалкевіча. Відаць, багатым людзям сёньня не да мастацтва.

Наступны, XYII аўкцыён у Горадні, пройдзе 29 лютага.

**Вітаўт РУДНІК.**

## ЛІДСКАЯ МЭБЛЯ ЕДЗЕ Ў ФРАНЦЫЮ

Прадукцыя Лідзкай мэблевай фабрыкі знаходзіць шырокі попыт. І справа ня толькі ў значна ніжэйшым кошце нашых вырабаў, але і ў тым, што якасьць іх адпавядае ўсім патрабаваньням эўрапейскіх стандартаў, а выраблены яны з натуральнай, экалагічна чыстай сасны.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## ЗАМЕСТ СТРАТАЎ БУДУЦЬ ПРЫБЫТКІ?

Міністр інфарматыкі і сувязі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ганчарэнка падпісаў загад аб разьдзеле з першага лютага раённых вузлоў сувязі (РВС) на раённыя вузлы паштовай сувязі (РВПС) і раённыя вузлы электрасувязі (РВЭС). Замест аднаго начальніка будзе два, замест адной бухгалтэрыі будзе дзьве.

Цікава, як адаб'ецца рэарганізацыя на фінансавым стане гэтых арганізацыяў ды якасьці іхных паслугаў?

**Ігнат ХІТРОВІЧ.**

## ДАЧАКАЛІСЯ І СТУДЭНТЫ

З першага студзеня «бацька» падаў заяву на ўдзел у конкурсе на лепшага педагога, бо адным росчыркам пяра стымуляваў усіх студэнтаў да лепшай вучобы. Вычышча слаба стала эканамічна нявыгадна, бо тыя, у каго сярэдні бал складзе ад 3 да 3,4 атрымаюць толькі самую нізкую, так званую сацыяльную стыпендыю. Той, у каго адзнака акажацца вышэй, можа разьлічваць на вучэбную стыпендыю. Ну, а самым адораным будзе выдавацца імянная. А ўжо тыя, хто пакажа асабліва глыбокія і трывалыя веды, можа разьлічваць на матэрыяльнае заахвочваньне са сьпецыяльнага прэзідэнцкага фонду.

**Зьміцер СЬВІСТУНОВІЧ.**

# «НЯ ВЕРУ НІВОДНАМУ СЛОВУ ПРЭЗІДЭНТА»

**Гэты ліст быў накіраваны ў рэдакцыю «Лідскай газеты», як водгук на адну з публікацыяў у гэтым выданьні. Але, згодна паведамленьню аўтара артыкула спадара Бурачэўскага, там у публікацыі яму адмовілі. Такім чынам гэты артыкул трапіў у «Пагоню». Магчыма, хто-небудзь мае думку, якая адрозніваецца ад пазіцыі Бурачэўскага. «Пагоня» гатовая і гэтым людзям прапанаваць свае старонкі.**

20 сьнежня мінулага году ў «Лідскай газеце» ў рубрыцы «Прашу слова» я прачытаў ліст былога механізатара калгаса «Камунар» Л.Некрашэвіча «Я яшчэ ня страціў веры ў прэзідэнта» і вырашыў адказаць праз вашу даволі папулярную на Лідчыне газету, паважанаму механізатару і яго аднадумцам. Я зьяўляюся сябрам БНФ, і мне даводзілася неаднаразова ў час выбарчых кампаній быць назіральнікам на раёне і размаўляць са сьпецыялістамі саўгасаў і калгасаў.

Дык вось, у сваім лісьце паважаны механізатар абвінавачвае Беларускі Народны Фронт ва ўсіх сьмяротных грахах і бедах, якія нечакана зваліліся на вёску, а менавіта ў развале калгасна-саўгаснага ладу. Раю тым, хто прытрымліваецца такіх меркаваньняў, уважліва пачытаць праграмы кандыдатаў ад БНФ, і знайсьці хоць слоўца аб тым, што яны зьбіраюцца прымусова развальваць калгасы і саўгасы. Не, паважаныя, прымусова іх развальваць ніхто не зьбіраецца. Тыя з гаспадарак, якія трымаюцца на плыву, хай далей працуюць і багацеюць. Мы, прадстаўнікі БНФ, звычайныя людзі і ходзім, як і ўсе, па хлеб у крамы. Мы аддаём сабе справаздачу, што калі адначасова спыніць дзейнасьць калектыўных форм гаспадараньня, у краіне наступіць голад. Але падтрымліваць фінансавымі ўліваньнямі стратныя гаспадаркі - гэта марная трата грошай падаткаплацельшчыкаў. Гэта значыць нашых грошай.

Большасьць калгасаў, ці ўжо развалена тымі, хто найбольш «абараняе» калгасы, ці развалiцца вельмі хутка сама па сабе. За прыкладам хадзіць далёка ня трэба. Побач з Лідай знаходзіцца калгас імя Мічурына і аграфірма «Дзітва». У першым затрымкі з выплатай заробкаў, бракуе запчастак да тэхнікі. Дажыліся да таго, што бульбу з палеткаў убіралі бадай што адзіным трактарам. Астатняя тэхніка прастойвае. Зараз ідзе гаворка аб тым, што ўвогуле рабіць з гэтым некалі квітнеючым калгасам.

У гаспадарцы «Дзітва» усё фуражнае збожжа выграблі невядома куды, і таму кіраўніцтва вымушана было пусьціць пад нож палову статку. Падобнае становішча амаль ва ўсіх гаспадарках раёну. Усюды квітнеюць усім вядомыя заганы сацыялізму: крадзеж, безгаспадарчасьць, п'янства, самадурства чыноўнікаў, праматаваньне дзяржаўных крэдытаў. Калі ня даць зялёнае сьвятло ўсім формам уласнасьці і не падтрымаць дзяржавай, прынамсі першы час такія формы, як фермерства і акцыяніраваньне гаспадарак, то мы дажывёмся да тых часоў, што зноў па вёсках будуць сноўдацца розныя гіцлі і шчупаць курэй, каб селянін, крый Божа, ня зьеў лішняе яйка.

Механізатар Некраэвіч моцна шкадуе аб развале былой імперыі, якая трымалася на штыках хлусьні, казнакрадзтве і разбазарваньні нацыянальных багацьцяў. І першапрычынай нашых бед лічыць суверэнітэт, які нечакана зваліўся на нашыя галовы. Можна шмат спрачацца, ці атрымалі мы сапраўдны суверэнітэт, кожны раз кленчучы перад Масквой.

Але справа ня ў гэтым.

Суверэнітэт, незалежнасьць, свабода - гэта найвялікшыя каштоўнасьці, як асобы, так і народа. Нездарма у народзе кажуць: «Прымачы - хлеб сабачы». Дык вось, каб сапраўды спраўдзіўся наш суверэнітэт, мы б набылі годнае і заможнае жыцьцё, павагу ва ўсім сьвеце, спакой і ўпэненасьць у заўтрашнім дні, магчымасьць працаваць дзеля таго, каб адпачываць і падарожнічаць па ўсім сьвеце, а не зводзіць канцы з канцамі.

Магчыма паважаны механізатар забыўся, як з ранку займалі чэргі ў крамах за хлебамі сольлю, калі пачаўся канфлікт паміж Кітаем і В'етнамам. Як дапамагалі розным марксістам ў Афрыцы і Лацінскай Амерыцы, некаторыя з якіх потым аказаліся звычайнымі людажэрамі. Як была распачата ганебная вайна ў Афганістане, полымя якой ня згасла і дагэтуль. Як быў утвораны пад савецкім ботам так званы сацыялістычны лагер. Як душыліся памкненьні народаў да свабоды і незалежнасьці ў Венгрыі, Чэхаславакіі, Усходняй Германіі і Польшчы. Нарэшце, якім коштам і якімі ахвярамі была атрымана перамога ў Вялікай Айчыннай вайне, і хто зараз лепей жыве, і хто каму шле гуманітарную дапамогу - пераможцы пераможаным ці наадварот?

Магчыма сп. Некрашэвіч шкадуе аб тым, што ня можа адправіць сваіх унукаў на вайну ў Чачню, ці абараняць інтарэсы старэйшага брата ў Таджыкістане, ці ў іншых гарачых кропках СНД.

Але мне гэтага ня трэба. Таму я ўсім сэрцам буду змагацца за наш, хоць і кволы, суверэнітэт, за нашу скалечаную мову, буду стаяць на пазіцыях незалежнасьці, свабоды, дэмакратыі.

**М.БУРАЧЭЎСКІ, інвалід працы.**

# СУМЕЖЖА

**РАСКЛАД РУХУ ЦЯГНІКОЎ ПА СТАНЦЫІ ГРОДНА БЕЛАРУСКАЙ ЧЫГУНАЧНАЙ ДАРОГІ З 28 ТРАЎНЯ 1995г.**

| N | МАРШРУТ | Час адых. з пач. станц. | Прыб. у Грод-на | Ады-ход з Грод-на | Ста-янка ў Грод-на | Час пры-ходу на кан. стан | Дні кур-сі-ра-вань-ня |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 26 ск | Берлін-Варшава-С.Пецярбург | 23.00 | 16.43 | 17.13 | 0.22 | 11.50 | штодз. |
| 25 ск. | С.Пецярбург-Варшава-Берлі | 21.1 7 | 14.1 0 | 14.34 | 0.24 | 6.25 | штодз. |
| 58 ск. | Варшава-С.Пецярбург | 0.43 | 11.06 | 11.46 | 0.40 | 9.38 | штодз. |
| 57 ск. | С.Пецярбург-Варшава | 12.39 | 8.16 | 8.56 | 0.40 | 15.01 | штодз. |
| 36 ск | Беласток-Масква | 18.13 | 23.50 | 0.50 | 1.04 | 21.19 | штодз. |
| 35 ск. | Масква-Беласток | 9.22 | 3.10 | 4.12 | 1.02 | 7.40 | штодз. |
| 28 ск. | Варшава-Вільня | 21.05 | 5.29 | 5.44 | 0.15 | 9.50 | штодз. |
| 27 ск. | Вільня-Варшава | 17.15 | 21.17 | 21.34 | 0.17 | 15.47 | штодз. |
| 19004с. | Варшава-Гродна | 8.50 | 15.51 | - | - | - | штодз. |
| 19007с. | Гродна-Варшава | - | - | 16.45 | - | 22.20 | штодз. |
| 51000с. | Гдыня-Гродна | 19.50 | 8.17 | - | - | - | штод. |
| 51001с. | Гродна-Гдыня | - | - | 10.40 | - | 20.33 | штодз. |
| 19020 | Беласток-Кузьніца-Гродна | 21.53 | 1.38 | - | - | - | штодз. |
| 19023 | Гродна-Кузьніца-Беласток | - | - | 2.55 | - | 4.44 | штодз. |
| 68 | Гродна-Саратаў | - | - | 3.41 | - | 20.04 | Па ўказ. |
| 67 | Саратаў-Гродна | 10.45 | 0.38 | - | - | - | Па ўказ. |
| 617 | Гродна-Сакулка | - | - | 23.25 | - | 0.30 | Па ўказ. |
| 618 | Сакулка-Гродна | 1.00 | 3.39 | - | - | - | Па ўказ. |
| 493 | Гродна-Сакулка | - | - | 13.26 | - | 14.20 | Па ўказ. |
| 494 | Сакулка-Гродна | 14.50 | 17.55 | - | - | - | Па ўказ. |
| 247 | Днепрапятроўск-Кр.Рог-Гродна | 22.05 | 9.32 | - | - | - | Па чысл |
| 248 | Гродна-Кр.Рог-Днепрапятроўск | - | - | 19.19 | - | 7.39 | Па чысл |
| 78 ск. | Гродна-Масква «Нёман» | - | - | 14.19 | - | 11.10 | штодз. |
| 77 ск. | Масква-Гродна «Нёман» | 16.15 | 9.57 | - | - | - | штодз. |
| 668 | Гродна-Гомель | - | - | 23.42 | - | 15.40 | штодз. |
| 650 | Гродна-Гомель | - | - | 17.45 | - | 6.18 | Па нец. |
| 667 | Гомель-Гродна | 16.48 | 7.44 | - | - | - | Штодз. |
| 649 | Гомель-Гродна | 23.15 | 12.14 | - | - | - | Па цотн. |
| 82 | Гродна-Унеча-/Орша,Магілеў/ | - | - | 15.35 | - | 11.50 | Па нец. |
| 81 | Унеча-Гродна/Орша,Магілеў/ | 12.40 | 7.07 | - | - | - | Па цотн. |
| 684 | Гродна-Віцебск | - | - | 15.35 | - | 5.05 | Па цотн. |
| 683 | Віцебск- Гродна | 18.10 | 7.07 | - | - | - | Па нец. |
| 668/38 | Гродна-Сочы-Адлер | - | - | 23.42 | - | 17.14 | Па нец. |
| 38/667 | Адлер-Сочы-Гродна | 22.38 | 7.44 | - | - | - | Па цотн. |
| 78/182 | Гродна-Сімферопаль | - | - | 14.19 | - | 14.19 | Па нец. |
| 182/77 | Сімферопаль-Гродна | 13.00 | 9.57 | - | - | - | Па цотн. |
| 668/195 | Гродна-Баранавічы-Брэст | - | - | 23.42 | - | 15.24 | штодз. |
| 196/667 | Брэст-Баранавічы-Гродна | 20.25 | 7.44 | - | - | - | штодз. |
| 6280 | Гродна-Марцінконіс | - | - | 3.36 | - | 5.23 | штодз. |
| 6284 | Гродна-Марцінконіс | - | - | 8.10 | - | 10.02 | штодз. |
| 6281 | Марцінконіс-Гродна | 5.38 | 7.32 | - | - | - | штодз. |
| 6285 | Марцінконіс-Гродна | 10.17 | 12.10 | - | - | - | штодз. |
| 6282 | Гродна-Друскенікі | - | - | 7.09 | - | 8.46 | 6,7 |
| 6292 | Гродно-Друскенікі | - | - | 18.10 | - | 19.50 | 6,7 |
| 6283 | Друскенікі-Гродна | 9.16 | 10.55 | - | - | - | 6,7 |
| 6293 | Друскенікі-Гродна | 20.20 | 22.12 | - | - | - | 6,7 |
| 6286 | Гродна-Марцінконіс | - | - | 15.02 | - | 16.53 | штодз. |
| 6287 | Марцінконіс-Гродна | 17.08 | 19.01 | - | - | - | штодз. |
| 6288 | Гродна-Парэчча | - | - | 18.10 | - | 19.00 | 1,2,3,4,5 |
| 6289 | Парэчча-Гродна | 19.17 | 20.12 | - | - | - | 1,2,3,4,5 |
| 6294 | Гродна-Парэчча | - | - | 13.15 | - | 14.10 | штодз. |
| 6290 | Гродна-Парэчча | - | - | 20.35 | - | 21.30 | штодз. |
| 6295 | Парэчча-Гродна | 14.22 | 15.16 | - | - | - | штодз. |
| 6291 | Парэчча-Гродна | 22.13 | 23.07 | - | - | - | штодз. |
| 6262 | Гродна-Ліда | - | - | 13.15 | - | 16.26 | штодз. |
| 694 | Гродна-Ліда-Баранавічы | - | - | 16:23 | - | 23.31 | штодз. |
| 6268 | Гродна-Ліда | - | - | 21.24 | - | 0.41 | штодз. |
| 6261 | Ліда-Гродна | 3.26 | 6.41 | - | - | - | штодз. |
| 6265 | Ліда-Гродна | 12.35 | 16.01 | - | - | - | штодз. |
| 6267 | Ліда-Гродна | 20.54 | 0.11 | - | - | - | штодз. |
| 6254 | Гродна-Ваўкавыск | - | - | 9.02 | - | 11.30 | штодз. |
| 6257 | Ваўкавыск-Гродна | 14.48 | 17.21 | - | - | - | штодз. |
| 634 | Гродна-Баранавічы | - | - | 14.34 | - | 20.20 | штодз. |
| 631 | Баранавічы-Гродна | 8.25 | 14.16 | - | - | - | штодз. |
| 632 | Гродна-Баранавічы | - | - | 2.20 | - | 7.39 | штодз. |
| 633 | Баранавічы-Гродна | 20.37 | 2.03 | - | - | - | штодз. |
| 6801 | Гродна-Брузгі | - | - | 7.01 | - | 7.51 | штодз. |
| 6805 | Гродна-Брузгі | - | - | 11.55 | - | 12.45 | штодз. |
| 6803 | Гродна-Брузгі | - | - | 19.12 | - | 20.02 | штодз. |
| 6807 | Гродна-Брузгі | - | - | 9.38 | - | 10.28 | Па ўказ. |
| 6809 | Гродна-Брузгі | - | - | 17.22 | - | 18.21 | Па ўказ. |
| 6802 | Брузгі-Гродна | 8.01 | 8.51 | - | - | - | штодз. |
| 6806 | Брузгі-Гродна | 12.56 | 13.51 | - | - | - | штодз. |
| 6804 | Брузгі-Гродна | 20.13 | 21.04 | - | - | - | штодз. |
| 6808 | Брузгі-Гродна | 10.38 | 11.28 | - | - | - | Па ўказ. |
| 6810 | Брузгі-Гродна | 18.44 | 19.40 | - | - | - | Па ўказ. |
| 605 ск. | Баранавічы-Гродна | 13.43 | 17.43 | - | - | - | 5,6,7 |
| 606 ск. | Гродна-Баранавічы | - | - | 18.13 | - | 22.06 | 5,6,7 |
| 692 | Гродна-Ліда-Баранавічы | - | - | 3.56 | - | 11.17 | штодз. |
| 691 | Баранавічы-Ліда-Гродна | 5.23 | 11.45 | - | - | - | штодз. |

**СПРАВАЧНАЯ ЧЫГУНАЧНАГА ВАКЗАЛА: тэл. 44-85-56**

*КАРЭЛ ЧАПЭК*

## УКРЫЖАВАНЬНЕ

І паклікаў Пілат Навума, чалавека дасьведчанага ў гісторыі і вучонага, і сказаў яму:

«Навум, мне надта прыкра, што вашаму народу закарцела ўкрыжаваць таго чалавека. Паразі вас гром, гэта ж бясправуе.»

«Калі б ня было бяспраўя, ня было б гісторыі.» - сказаў Навум.

«Я не хачу ўвязвацца ў гэтую справу. - сказаў Пілат. - Скажы ім, каб яны яшчэ над гэтым падумалі.»

«Ужо позна, - гукнуў Навум. - Я звычайна сачу за падзеямі толькі па кнігах, а таму не пайшоў глядзець на месца пакараньня, але як раз хвілінку таму адтуль прыбегла мая прыслужніца і распавяла, што ён ужо ўкрыжаваны і вісіць паміж чалавекам, што справа, і чалавекам, што зьлева.»

І спахмурнеў Пілат і закрыў твар далонямі. Праз хвіліну аднак прамовіў: «Тады ня будзем гаварыць пра гэта. Але што, скажы, калі ласка, зрабіў той чалавек справа і той чалавек зьлева?»

«Не магу сказаць. - кінуў Навум. - Адныя кажуць, што гэта злачынцы, а іншыя, што нейкія прапаведнікі. Наколькі я магу меркаваць паводле гісторыі, яны займаліся нейкай там палітыкай але не вазьму ў галаву, чаму іх народ укрыжаваў абодвух адразу.»

«Не разумею цябе,» - сказаў Пілат.

«Гэта значыць так. - разгаварыўся Навум. - Бывае людзі ўкрыжуюць таго, што справа, а бывае, што зьлева; у гісторыі заўсёды так бывала. Кожная эпоха мае іншых пакутнікаў. Ёсьць эпохі, калі кідаюць у турму або ўкрыжоўваюць таго, хто змагаецца за свой народ а ў іншыя часы чарга за тым, хто кажа, што трэба змагацца й за беднякоў і рабоў. Абодва чарадуюцца, і кожны мае свой час.»

«Ага. - сказаў Пілат. - Дык тады ўкрыжоўвайце кожнага, хто бярэцца за нешта прыстойнае.»

«Амаль што. - сказаў Навум. - Але тут вось у чым загадка. Я б сказаў, што гэтыя людзі бяруцца за справу больш з нянавісьці да тых іншых , чымсьці за тое прыстойнае, што яны прапаведуюць. Людзей заўсёды ўкрыжоўваюць за нешта прыгожае і вялікае. Той, хто як раз на крыжы, ахвяруе сваё жыцьцё за вялікую справу; але той, хто яго цягне на крыж і штурхае, той, Пілат, злы і дзікі і надта пачварны з выгляду. Пілат, народ ёсьць вялікая і прыгожая рэч .»

«Па крайняй меры наш, рымскі.» - сказаў Пілат.

«І наш таксама. - распавядаў Навум. - Але й справядлівасьць у дачыненьні да бедных ёсьць вялікая і прыгожая рэч. Толькі гэтыя людзі могуць задушыцца ад нянавісьці і злосьці з-за тых вялікіх і прыгожых рэчаў; а тыя іншыя ідуць за тым, то за гэтым і заўсёды дапамагаюць укрыжаваць таго, на каго як раз надыйшла чарга; або толькі глядзяць на гэта і прыгаворваюць: так і трэба, мусіў ісьці з нашай партыяй.»

«Чаму тады, - сказаў Пілат, - укрыжоўваюць таго, хто пасярэдзіне?»

«Гэта значыць так. - сказаў на тое Навум. - Калі б выйграў той, што зьлева, то ўкрыжаваў бы таго, што справа, але яшчэ хутчэй таго, што пасярэдзіне. Калі б выйграў той, хто справа, то ўкрыжуе таго, што зьлева, але таго пасярэдзіне яшчэ хутчэй. Наогул магчыма таксама, што пачнуцца хваляваньні і сутычкі; тады той справа і той зьлева разам укрыжуюць таго, што пасярэдзіне, таму што ён ня вырашыў, супраць каго з іх абаіх ісьці. Калі ты падымешся на дах свайго дому, то ўбачыш поле Хакелдама: нянавісьць на левую руку, нянавісьць на правую руку, а між імі той, які хацеў уладзіць усё любоўю і розумам, як пра яго кажуць. А акрамя таго ты ўбачыш масу людзей, якія на гэта толькі глядзяць, ядучы пры гэтым свой абед, які прынесьлі з сабой. Нешта цямнеецца; зараз усе пабягуць галопам дадому, каб ня прамачыць вопратку.»

Было ж каля шостай гадзіны дня, і сталася цемра па ўсёй зямлі да гадзіны дзевятай. А дзевятай гадзіне той, што пасярэдзіне, загаласіў моцным голасам: «Элой, Элой сабахтані?»* І заслона ў храме разарвалася надвое, ад верху да долу, і зямля затраслася, і скалы трэскаліся.

**/з «Кнігі апокрыфаў»/ 1927 г.**

**Пераклаў з чэшскай Валеры Буйвал.**

*** Ойча, Ойча, у рукі Твае аддаю дух Мой?**

## РАМ ЧАНДРА Ў МАЛАДЭЧНЕ

Жыхар індыйскага горада Калькута Рам Чандра Бісбас-журналіст, філосаф, мастак, выкладчык гімнастыкі, які валодае сістэмай ёгаў, вось ужо 14 гадоў падарожнічае на веласіпедзе па белым сьвеце. 17 студзеня ён даехаў да Маладэчна.

Колы яго веласіпеда наматалі 370 000 кіламетраў па Афрыцы, Паўднёвай, Цэнтральнай і Паўночнай Амерыцы, Карыбскіх астравах, па поўначы эўрапейскага кантыненту, арктычных краінах. Ён быў і на Паўночным і Паўднёвым палюсах.

Кіраўніцтва горада наладзіла афіцыйную сустрэчу з вялікім падарожнікам, а назаўтра па запрашэньню настаўнікаў Рам Чандра правёў сустрэчу з вучнямі СШ N 6. І - зноў у дарогу.

**Язэп ГАСЬЦІЛОВІЧ.**

## ФІРМЕННАЯ КРАМА Ў МАСКВЕ

Адным з найбольш стабільна працуючых прадпрыемстваў вобласьці зьяўляецца лідзкая «Лакафарба». Прадукцыя прадпрыемства карыстаецца шырокім попытам як у Беларусі, так і ў іншых краінах. Так, 60 працэнтаў яе сёньня адпраўляецца ў Расею. Зараз сьпецыялісты «Лакафарбы» займаюцца стварэньнем дылерскай сеткі ў гэтай краіне. Ну, а першым удалым крокам у гэтай справе можна лічыць адкрыцьцё ў Маскве свайго гандлёвага дома «Ліда». На фоне шматгадовай балбатні аб неабходнасьці ўсебаковай беларуска-расейскай інтэграцыі выдатны прыклад узаемавыгаднага эканамічнага супрацоўніцтва.

**В.АНІМУЦКІ.**

## МАЙКЛ ДЖЭКСАН І ЭСПЕРАНТА.

Сусьветна вядомы ідал рок-музыкі Майкл Джэксан, зьняў нядаўна на эсперанта відэафільм, які рэкламуе кампакт дыск «HISTORY» (Гісторыя), які нядаўна выйшаў. Кліп каштаваў яму 6 мільёнаў даляраў. Чаму менавіта мова эсперанта была выкарыстана ў фільме - дакладна не вядома, бо, як звычайна, усё, што акружае Джэксана, пакрыта рэкламнай таямніцай. Фільм, зроблены ў Будапешце за 10 дзён, паказвае Джэксана як вызваліцеля народаў Усходняй Эўропы. На адзінай фатаграфіі, якую яго агенцтва прадставіла газетам, відаць, як на вуліцы ўсьлед за Майклам Джэксанам крочаць салдаты, у якіх на руках павязкі з зялёнымі зоркамі (сімваламі эсперанта). Бэрнс Гарнэт - вядомы амерыканскі эсперантыст, які перакладаў тэкст да гэтага фільма, сьцьвярджае, што фільм стаў добрай рэкламай і для мовы эсперанта, бо яна «ужываецца на працягу ўсей музычнай кнігі. Нават дзеці сьпяваюць у фільме на эсперанта: мы любім цябе, Майкл Джэксан».

**ГЕНАДЗЬ КУРГУН,**

**старшыня гарадзенскага эспэранта клуба «Эспэра».**





# ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

# «Я ЛЮБЛЮ БЯСКОНЦА БЕДНУЮ, СЬВЯТУЮ МАТКУ БЕЛАРУСЬ»

**У загаловак вынесены радок аднаго з першых вершаў юнака Бядулі на беларускай мове. Сёлета 110-я ўгодкі з дня нараджэньня і 55-я ўгодкі з дня сьмерці гэтага класіка беларускай літаратуры. Як жа так сталася, што аўтар радка, маленькі Самуіл, сын селяніна-бедняка з мястэчка Пасадзец Яфіма Плаўніка, адыйшоў ад свайго яўрэйскага асяроддзя, рашуча і назаўсёды стаў на пазіцыі беларускага адраджэньня? Беларуская мова зрабілася мовай яго душы, а беларусы - яго народам. Дый сам псеўданім пісьменьніка не выпадковы. Ён даў зарок бедаваць разам са сваімі братамі-беларусамі.**



А пачатак яго жыцьця нічым не прадракаў такога павароту. Хлопчык скончыў хедар, пасьля чаго тры гады правучыўся ў ешыбоце /школа рабінаў/. Адтуль ён уцякае дахаты. Зарабляе на пражыцьцё рэпетытарствам, старанна аддаецца самаадукацыі. Рана пачынае пісаць вершы: спачатку на філасофскія тэмы паводле старажытнай яўрэйскай рэлігійнай літаратуры, потым складае вершы і апавяданьні на рускай мове. Але перамагла стыхія беларускай мовы, у якой ён вырас. Пасьля публікацыі некалькіх апавяданьняў у «Нашай Ніве» яго паклікалі ў Вільню. Працуе ў культурных і асьветніцкіх суполках. Потым рэдактар «Нашай Нівы» Янка Купала запрашае яго сакратаром рэдакцыі. Менавіта ў Вільні за некалькі гадоў Бядуля «вырас», дасягнуўшы ўзроўню сталага пісьменьніка і грамадзяніна.

На маю думку такая эвалюцыя хлопчыка з глухога беларускага мястэчка мае глыбокія гістарычныя карані. Яны зьвязаны з мейсцам яўрэйскага этнасу ў фармаваньні беларускай нацы. Незалежна ад таго, адкуль яўрэі прыйшлі - ці з украінскага поўдня, як нашчадкі былых хазараў, ці з захаду, як вымушаныя вандроўнікі з Гішпаніі, яны былі першымі / аж на рубяжы IX - X стагоддзяў/, хто пасяліўся сярод абарыгенаў нашай Бацькаўшчыны, беларусаў і балтаў. Крымскія татары ды рускія беглыя старавеpы зьявіліся ў нас значна пазьней і маюць меншае значэньне ў кансалідацыі беларускай нацы. У кантэксьце артыкула важна тое, што яўрэі апынуліся на Беларусі не як захопнікі, а як выгнаньнікі, каторыя знайшлі на нашай зямлі канчатковы прытулак. Дарэчы, аб гэтым сказана вельмі ўдала ў вершы Янкі Купалы «Жыды» / 1921/. Нельга не перадрукаваць частку гэтага верша.

***Нявольнікі, вы сёньня з намі разам***
***На беларускай змучанай зямлі.***
***Дзе чорны зьдзек, пасьвенчаны абразам,***
***Гняце нас разам, як зьвяр'ё, у крутой пятлі.***
***Вы ўскрэсьнеце, жыды, услед за Беларусяй -***
***Сьцяг ваш і нашая паходня будуць жыць,***
***Хоць наш магільнік кветкай апрануўся,***
***Хоць згубны мор над намі гібеляй ляжыць!***

Трэба падкрэсьліць, што не беларусы прыдумалі «черту оседлости», або «добровольно-принудительное» прыйманьне іудзеямі праваслаўя. І ўжо ніяк не беларусы былі арганізатарамі яўрэйскіх пагромаў. Як дастаткова адукаваны чалавек, Бядуля ня мог ня ведаць, што чакала яго кроўных братоў і сясьцёр пры варожых набегах на Беларусь. Дастаткова прыгадаць падзеі 1563 г. у захопленым Іванам Грозным Полацку. На мове савецкіх экскурсаводаў гэта называлася «как Иван Грозный освобождал Полоцк от литовских феодалов». Калі беларусаў катавалі, гвалцілі іх дзяўчат і кабет, але забівалі толькі тых, хто адмаўляўся служыць цару, то іудзеяў усіх, ад састарэлых да немаўлят, тапілі ў палонках пад лёдам Дзьвіны. Такія прыклады з гісторыі беларускага сярэднявечча можна множыць ды множыць. Такім чынам, агульны лёс беларусаў і беларускіх яўрэяў на працягу тысячагоддзя быў тым падмуркам, на якім узьняўся клясік нашага мастацкага слова, надзвычайна самабытны і ня менш сумленны пісьменьнік Змітрок Бядуля. Яго дарэвалюцыйныя апавяданьні шматгранна адлюстравалі тагасачнае жыцьцё працоўнага люду беларускай вёскі. Скрозь элегічна-тужлівую танальнасьць шэдэўраў дарэвалюцыйнай прозы Бядулі прасьвечвае глыбокая вера ў здольнасьць беларускага народу здабыць сабе лепшую долю.

Пасьля закрыцьця «Нашай Нівы» /1915/ Бядуля вяртаецца ў родны Пасадзец, але хутка пераязджае ў Менск. Там ён побач з Янкам Купалам і Максімам Багдановічам удзельнічае ў адраджэнцкім руху. Раней пісалі, што Бядуля хоць і не адразу , але прыняў ідэалогію Кастрычніка і савецкі лад жыцьця. Мне здаецца, што гэта не зусім так. Няхай чытач зробіць уласныя меркаваньні на гэты конт. Прывяду «Дзесяць запаведзяў беларусу», апублікаваных Бядулям у «Беларускім календары» /Вільня, 1922/.

### ДЗЕСЯЦЬ ЗАПАВЕДЗЯЎ БЕЛАРУСУ

1

***Кожны праваслаўны беларус павінен ведаць, што ён не масковец (расеяц); а католік, што ён не паляк. Памятайце, што вы не проста «тутэйшыя людзі», а беларусы.***

2

***Не саромся, беларусе, гаманіць па свойму - у роднай мове бацькоў і дзядоў сваіх. Шануй сваю мову, шануй свае песьні, свае казкі, звычаі і ўсё роднае - гэта спадчына дзядоў і вялікі нацыянальны скарб.***

3

***Богу маліцца трэба толькі пасвойму; тады вы добра зразумееце тое, што кажаце, дзяцей вучыць трэба толькі ў роднай мове, - тады навука прынясе шмат карысьці.***

4

***Толькі тады цябе будуць шанаваць, як чалавека, калі сам сябе будзеш шанаваць - калі не адкінеш свайго нацыянальнага ўласнага багацьця. А першы скарб нацыянальны - гэта родная мова.***

5

***Толькі на роднай, добра зразумелай мове чалавечы розум разьвіваецца і багаціць родную духоўную і эканамічную культуру.***

6

***Культура кожнай нацыі паасобку прыносіць карысьць агульна-чалавечай культуры - усяму сьвету. Таксама і мы, беларусы, прынясем карысьць усім людзям на зямлі толькі тады, калі яны ў нас угледзяць нашае асобнае, вытворанае намі, а не пазычанае ў палякаў, або ў маскалёў. Фундаментам гэтага ёсьць толькі родная мова.***

7

***Быць беларусам - гэта значыць, працаваць дзеля свайго народу і разьвіваць сваю культуру і штукарства. Таксама і ўсе іншыя нацыі - і свайго не чурайся, і чужому навучайся.***

8

***Кожны з нас павінен памятаць і ведаць, што нашая беларуская мова ня горшая за іншыя мовы, толькі ў нашай мове было наўмысьля забаронена пісаць і друкаваць кнігі дзеля таго, каб мы аставаліся цёмнымі людзьмі і каб былі парабкамі чужых, болей разумных людзей. Ведайце, што некалькі соткаў гадоў таму назад у нашай мове пісаліся законы ў гэтым краі і друкаваліся розныя сьвяточныя і сьвецкія кнігі.***

9

***Той чалавек, што называе нашу мову «мужыцкай», «хамскай», і кпіць з яе, гэта або правакатар, або дурань. Бо мова, у якой гамоніць 12 мільёнаў людзей, мае права быць нарайўне з усімі нашымі мовамі і разьвівацца праз друк і кнігі.***

10

***Тыя людзі, з палякаў ці маскоўцаў, што скажуць вам: «Кіньце сваю бедную, неразьвітую мову і прылучэцеся да нас - мы дадзем усё гатовенькае» - гэта, памятайце, такія людзі, што найдалей хочуць закабаліць вашую душу - не ідзеце!***

Калі сёньня чытаеш гэтыя натхнёныя сэрцам белыя вершы, каб ня ведаў, хто аўтар і які год выданьня, то падумаў бы, што гэта чарговая вылазка таго самага ўльтраправага нацыяналіста - Зянона Пазьняка. А між іншым, гэта калісьці напісаў беларускі савецкі пісьменьнік, кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сьцягу Зьмітрок Бядуля. Далей мы яшчэ зьвернемся да Бядулі.

Найбольш значныя творы савецкага перыяду - аповесьць «Салавей» /1927/ і рамам «Язэп Крушынскі». Першую кнігу Бядуля надрукаваў у 1929 годзе, а другую скончыў у 1932 г. Аповесьць «Салавей» пісьменьнік быў вымушаны ні раз перапрацоўваць, каб было лепш відаць, што Сымон і пан Вашамірскі належаць да розных, класава варожых станаў. Нягледзячы на перапрацоўкі, Бядуля ўсё ж захаваў галоўную думку твору: народнае мастацтва толькі тады важкае ў грамадзкім сэнсе, калі яно вольнае і духоўна незалежнае.

Горшы лёс напаткаў раман «Язэп Крушынскі». Калі першую кнігу літаратуразнаўцы лічаць вялікім дасягненьнем беларускай мастацкай прозы, то гэтага нельга сказаць пра другую кнігу. Відавочна, што яна апынулася пад прэсам вульгарна-сацыялагічнай крытыкі адэптаў «социалистического реализма». У выніку: непераканаўчы ход падзеяў, спрашчэньне аблічча герояў. Трэба дапусьціць, што ўціск на Бядулю працягваўся, і ён зрабіў «ход канём»: напісаў цікавую алегарычную казку «Сярэбраная табакерка».

Я пакідаю літаратуразнаўцам ды літаратурным крытыкам аналіз твораў Зьмітрака Бядулі з мастацкага пункту гледжаньня. Гэта ня для аматараў. Сваю грамадзянскую задачу буду лічыць выкананай, калі чытач аднясецца з павагай да бядуляўскіх дзесяці запаведзяў беларусу, да запаветаў пісьменьніка. Гэтыя запаведзі для народу этнічнай Беларусі, разарванай па Рыжскаму дагавору на дзьве часткі, а затым абшчыпанай з усходу, поўначы і поўдню «старшим братом», на маю думку сёньня больш актуальныя, чым у 1922 г. Тады цяжка было зьнішчыць беларускасьць, бо ў яе была жывая крыніца - беларуская вёска. Цяпер па гэтай вёсцы пара пісаць рэквіем. Нават вышкаленыя мовазнаўцы ўпадуць у роспач ад гаворкі, якой карыстаецца сёньняшняя вёска. А пра гарадзкіх жыхароў нават лепш не ўспамінаць.

Мне здаецца, што запаветы Бядулі больш запомнілі не беларусы /мала хто з іх чытаў віленскі каляндар/, а рыцары ВЧК-ОГПУ-НКВД. На такую думку наводзіць туман вакол сьмерці Бядулі. У саракавыя гады пісалі, што ён памёр у цягніку па дарозе на Ашхабад ад паралічa сэрца. Насьцярожвае тое, што гэты дыягназ быў вельмі распаўсюджаны ў Гулагу. У 80-я гады стала вядома, што сьмерць нагнала Зьмітрака Бядулю каля Уральску 3 лістапада 1941 году і ён пахаваны ва Уральску. Далекавата гэта ад Ашхабада ды ня вельмі па дарозе ў Туркменістан.

У час так званай галоснасьці часопіс «Нёман» спрабаваў высьвятліць лёс Янкі Купалы, сябра Бядулі па нашаніўскаму перыяду. Аналізаваўся 1930 год, калі Купалу давялі да спробы самагубства, а таксама трагічны фінал Купалы ў 1942 годзе, і абмяркоўвалі сакрамантальнае пытаньне, як і чаму Янка Купала паляцеў з 10-га паверху напярэдадні свайго шасьцідзесяцігоддзя і адказнага выступу ў славянскім антыфашысцкім камітэце. Канчаткова гэтае пытаньне ўжо нікому не рашыць, але «Нёман» схіліўся да найбольш верагоднай думкі: «солдаты вооружённого отряда партии, выпестованные «железным Феликсом», ничего не забывают». Сёньня, калі на Беларусі «галоснасьць» страціла галосныя, ужо бадай што ня будуць цікавіцца, як скончыў сваё жыцьцё Зьмітрок Бядуля. Тым больш, што мова, якую праслаўляў пісьменьнік, цяперака ў загоне. Калі на ёй зьвернешся да чыноўніка, то цябе хутка абарвуць: «говорите по-человечески». Армія Рэспублікі Беларусь, што носіць не прэзідэнцкія, а савецкія эмблемы з чырвонай пяцікутнай зоркай, на гарматны стрэл не падпусьціць мову Бядулі да сваіх казармаў. І калі абкрадзены маскоўскімі кішэньнікамі «коробейник» з Беларусі зьвернецца па тэлефону ў беларускае пасольства на мове Бядулі, то супрацоўнік пасольства прабармоча нешта па-ангельску і кіне трубку. Дык няўжо дарма жыў на сьвеце Самуіл Плаўнік, бясконца блізкі нам Зьмітрок Бядуля? Вечная яму памяць.

**Г.К.**

## P.S.

Некаторым чытачам «Пагоні» не падабаецца мой крыптонім Г.К. А што рабіць? Кожная істота хоча жыць. Ва ўмовах сёньняшняй экалагічнай навалы некаторыя так прыстасаваліся, што нават дуст для іх вітамін. На жаль, не належу я да такіх плодных. Пайсьці пад ахову «очищенцев» мне неяк не па дарозе, ды і няма ад чаго чысьціцца.

